Беларуская газета

sumezha

# СУМЕЖЖА

Хай злыдні над намі скрыгочуць зубамі:
Любі сваю ніву, свой край,
І колькі ёсць сілы, да самай магілы
Ары, барануй, засявай!...
Я.КУПАЛА

№ 9(93) Заснавана ў 1991 годзе. Кастрычнік 2000 г.

## За фасадам "Дажынак

Як многія ведаюць, група лепшых працаўнікоў калгасаў "Дружба" і імя Калініна з нашага раёна пабывала нядаўна у Шклове і вярнулася з пампезных "Дажынак" з узнагародамі за сваю, сапраўды, самаадданую працу на жніве. Усяго на тым фэсце былі ўзнагароджаны 232 сельскія працаўнікі. Вядомы ў краіне старшыня Б. Шылько другі год запар адзначаны легкавушкай для службовага карыстання. Нашы прызёры непрамінулі адзначыць іншыя прэміі – матацыклы, халадзільнікі, тэлевізар, бо там народ гуляў і весяліўся ад душы. Як і раней, шмат было панавезена міліцыянтаў, якія людзей нен чапалі. А вось спадзяванні ўбачыць прэзідэнта на святе разам з жонкай не спраўдзіліся, хоць жыве Галіна Радзівонаўна зусім блізка ад Шклова. За пышным фасадам, як ні стараліся арганізатары свята, не схаваць шматлікіх бедаў і праблем вёскі. Калі адны пілі гарэлку, дык у многіх вёсках Віцебшчыны трэці месяц запар яшчэ змагаліся за ураджай. Толькі на Мёршчыне на той момант заставаліся неўбранымі 1660 гектараў збажыны, у суседзяў-глыбачан - каля тысячы га, дзе-нідзе і ў нас вялася гэта работа. Ніхто не асмеліўся сказаць у вочы на радзіме галоўнага "абаронцы" калгасаў, што так цяжка ніколі вёска не жыла. Не толькі парытэту цэн няма, але ўпершыню жні-во стрымлівалі моцныя перабоі з палівам, большасць камбайнаў і трактароў ужо выхадзілі па два мотарэсурсавых тэрміны.

## З'езд бяспраўных Саветаў

Не паспелі адны прадстаўнікі Пастаўшчыны вярнуцца са Шклова, як іншая група нашых кіраўнікоў-дэпутатаў стала рыхтаваць лепшыя свае касцюмы для паездкі ўжо ў сталіцу. Ва ўсіх мінскіх гасцініцах на мерапрыемстве, нагадваючым пышныя форумы камуністычных часоў, было не праціснуцца ад людзей з салідымі фігурамі і дэпутацкімі значкамі. У самім Палацы Рэспублікі стаяла такая духата, што страціў прытомнасць адзін з салдатаў ганаровай варты. Шматлікія загадзя вызначаныя прамоўцы хвалілі ўладу і абяцалі працаваць на месцах яшчэ лепш. На дзіва, галоўны аратар уклаўся ў рэгламент, хоць і паўтары гадзіны даводзіў прысутным і перад тэлекамерамі, што альтэрнатывы выбранаму курсу не будзе. На жаль, як і сур'ёзнай размовы аб надзённых праблемах, так і чакаемага рэфармавання мясцовага самакіравання, не адбылося. Людзі ведаюць, што ніводзін наш савет не мае паўнамоцтваў. Гэта адна бутафорыя, а рэальную ўладу на месцах мае толькі "вертыкаль". Дык ці варта было ў чарговы раз траціць вялізныя грошы, каб зноў займацца пустой гаварыльняй за кошт падаткаплацельшчыкаў?



## ПРАВІНЦЫЙНЫЯ ХРОНІКІ

## Наша зямлячка ў "Вожыку"

За гады свайго існавання рэспубліканскі сатырычны часопіс "Вожык" заўсёды выкрываў зло і змагаўся з бюракратызмам і чэрствасцю начальства, едка смяяўся над хібамі жыцця, дапамагаў людзям у складаных сітуацыях. І вось зараз у рэдакцыйным калек-

тыве пачала працаваць рэдактарам аддзела пісем і фельетонаў наша зямлячка, маладая журналістка Юлія Зарэцкая (у дзявоцтве Хоміч). Характэрна, што колішняя вучаніца Дунілавіцкай СШ вучылася не на факультэце журналістыкі, а ў Мінскім педуніверсітэце. Але яе талент, уменне пісаць і валадаць словам былі заўважаныя і ацэненыя. Яшчэ будучы студэнткай, Юля друкавалася ў "Настаўніцкай газеце", "Чырвонай змене", іншых выданнях. Яе рэкамендаваў на сталую працу ў салідным часопісе сам знакаміты Генадзь Бураўкін, які таксама працуе зараз у "Вожыку". Акрамя ўладкавання адной з нямногіх з курса на прэстыжную працу ў сталіцы ў жыцці Юлі летам адбылася яшчэ адна радасная падзея. Рэдактар аддзела выйшла замуж за каханага хлопца з нашага раёна, з якім сябравала яшчэ са школы.

## Пацвердзілі свае веды

Тое, што наш край заўсёды быў багаты таленавітымі і здольнымі людзьмі, у чарговы раз пацвердзілі сёлетнія выпускнікі школ. У прыватнасці, удзельніца Усебеларускага балю выпускнікоў 2000 года Аксана Марозава не пабаялася рызыкнуць і паступіла на прэстыжны юрыдычны факультэт БДУ, дзе заўсёды самы высокі конкурс. Не адсталі ад сваёй сяброўкі і многія іншыя равеснікі з адной з лепшых у раёне СШ №1 райцэнтра. Так, з 90 сёлетніх выпускнікоў гэтай школы 46 сталі студэнтамі універсітэтаў і інстытутаў. Вытрымалі няпростыя выпрабаванні і ўсе 14 залатых і сярэбраных медалістаў СШ №1. Нарэшце паведамім, як і абяцалі чытачам, астатнія вынікі па раёну. На Пастаўшчыне з усіх 388 выпускнікоў гэтага года ў ВНУ вучацца 115, а 118 нашых маладых землякоў цяпер першакурснікі тэхнікумаў і каледжаў. Дай Бог, усім ім сілы і здароўя закончыць паспяхова вучобу, а бацькам – грошай. Бо сёлета з-за матэрыяльных цяжкасцей толькі ў Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны спынілі вучобу 15 студэнтаў.

## НАРЭШЦЕ ДАГНАЛІ ЛІТОЎЦАЎ

Як ні дзіўна, сёлета ўсё меней заўважаецца на вуліцах Пастаў аўтамашын з літоўскімі нумарамі. Значна паменшала іншамарак з іх сімволікай і на нашай аутазаправачнай станцыі. Ездзіць да беларусаў становіцца ўсё больш нявыгадна, бо цэны на тавары зраўняліся, а зараз, калі на мяжы з Расіяй з'явіліся мытныя пасты і ўсё прывозімае адтуль непазбежна вырасце ў цане, наогул няма сэнсу. Кепскі знак, падраўняўся ў цане кошт паліва на АЗС. А для шасці тысяч пастаўчан-уладальнікаў аўто чарговае, трэцяе ў верасні падаражанне цэн на нафтапрадукты было, сярпом па адным месцу. Заканамерна, што цэны на бензін у беларусаў апярэдзілі суседзяў па СНД. Такім чынам, зараз 1 літр бензіну А-76 (у доларавым эквіваленце) у Расіі можна купіць за 0,20, на Украіне – 0,29, у нас за 0,39 (404 рублі). Адпаведна бензін А-92: Расія – 0.24, Украіна – 0,34, Малдова – 0,44, а Беларусь – 0,49 (505 руб.). Аналагічная розніца не на нашу карысць і па марках А-95, А-98 і па дызельнаму паліву. Як кажуць, прыехалі, браткі-пастаўчане. Тупайце пяшком, бо колькі часу ў дадатак не хадзілі аўтобусы па горадзе і на прыгарадных маршрутах.

## КАЛІ СТАРАСЦЬ НЕ Ў РАДАСЦЬ

Па традыцыі раз у год улада звярнула ўвагу на праблемы старэйшага пакалення напярэдадні Дня пажылых людзей. У параўнанні з суседзямі у Еўропе менавіта на Беларусі ім жывецца горка і цяжка. Вельмі шмат у нас грамадзян з дрэнным здароўем, малымі пенсіямі, зусім адзінокіх і пакінутых. Калі ў цэлым па краіне доля пажылых людзей складае 21,4 працэнта, тона Пастаўшчыне – 32,3. Дапамогі і падтрымкі асабліва тым землякам, якія маюць дзяцей, або тыя жывуць далёка, часцей чакаць няма адкуль. Пры ўсёй павазе да працы 65 сацыяльных работнікаў яны дапамагаюць тлькі 609 нямоглым старым двойчы ў тыдзень. Чаго вартая лічба 50 пуцёвак у санаторыі і 17 накіраванняў у дамы састарэлых на 15517 пенсіянераў раёна. Можа не мільёны долараў на лядовыя палацы трэба траціць, а болей сродкаў укладваць на дапамогу старым і знямоглым? Шкада, што пры выбраным эканамічным курсе ніякіх шанцаў на дастойную старасць не маюць і цяперашнія пяцідзесяцігадовыя, калі здолеюць яшчэ дажыць да пенсіі.

## НОВЫЯ ТЭХНАЛОГІІ І СТАРЫЯ ЗАМАШКІ

Нібыта пад капірку, вяла і будзённа, як і на мінулагодніх выбарах у мясцовыя саветы, ідзе перадвыбарчая гонка. Большасці гараджан, падобна, зусім абыякава, хто з прэтэндэнтаў увойдзе ў Палату прадстаўнікоў. А вясковым жыхарам традыцыйна падкажуць, за каго трэба галасаваць. Ужо на адной з першых сустрэч з кандыдатамі ў дэпутаты па Пастаўскай выбарчай акрузе ў райцэнтры ў зале Дома культуры сабралася жменька людзей. Паслухаць прэндэнтаў на мандат - старшыню Беларускай асацыяцыі дзелавога супрацоўніцтва "Бэлэкс" Аляксандра Камая і дзеючага дэпутата Пятра Розынку прыйшло не больш паўсотні выбаршчыкаў, пераважна пагранічнікаў і некалькі настаўнікаў. Затое сустрэчы ў сельскіх клубах праходзяць пры высокай яўцы паслухмяных калгаснікаў.

На іх і сёлета у першую чаргу разлічвае мясцовая ўлада. У суседнім Браслаўскім раёне на бок былога старшыні калгаса Розынкі стала кіраўніцтва "вертыкалі". Нібыта няма іншых спраў, на сустрэчах у гарпасёлку Відзы і ў самым Браславе прысутнічаў і браў слова ў канцы старшыня райвыканкома Уладзімір Лакамы. Яго падказкі-патрабаванні галасаваць за аграрніка былі такімі непрыгожымі, што пра гэта не пабаялася сказаць у вочы ўсемагутнаму галаве раёна адна з выбаршчыц. Дарэчы, сустрэчу з кандыдатамі ў Браславе пачавлі на гадзіну раней тэрміну, не абвясціўшы аб гэтым каманду Камая.

У адносінах да апошняга тактыку дробнага фола выбралі і пастаўчане. Так, мясцовая газета "Пастаўскі край" прадстаўляе бізнесмена то расхваляваным, то далёкім ад інтарэсаў простых людзей. Каб супрацьстаяць гэтаму Камай адчыніў сваю грамадскую прыёмную. Крок, відаць, запознены. Але са з'яўленнем юрыста для кансультацый ро-лю сваю яна выканае. У штабе Камая спакойна рэагуюць на дробныя ўколы, лічаць, што празмернае старанне на выбарах апаненту часта вылазіць ім бокам.

***Падрыхтаваў У. Шык***

# НЕ Ў ЦАНЕ БЕЛАРУСКАЯ БУЛЬБАЧКА



Фота IREX-PROMEDIA

У верасні давялося размаўляць з адной жыхаркай вёскі Койры нашага раёна. Бачна, працавітая, па сапраўднаму сялянская ў іх сям'я. Дастаткова сказаць, што бульбы садзяць кожны год да гектара. Зразумела, што гэта не для ўласных патрэб, гэта ўжо таварная вытворчасць. І ў мінулым годзе, сапраўды, прадалі яны бульбы на 135 мільёнаў рублёў. На выручаныя грошы набылі маразільнік, іншыя буйныя рэчы. А вось сёлета, хаця ўраджай таксама выдатны, з рэалізацыяй бульбы праблемы. У раённай нарыхтоўчай канторы яе прымаюць, але патрабаванні да якасці, да памераў бульбы павышаныя. Ды і цана сёлета меншая, чым у мінулым годзе. Гэта не ўлічваючы інфляцыі, якая за прайшоўшы год была ўражальнай.

Ум чым жа прычына? Адзін з адказаў на гэта, як мне здаецца, даў у размове з журналістам вадзіцель вялікагрузнай аўтамашыны, які гэтай восенню якраз і займаўся тым, што, працуючы на прыватную фірму, займаўся перавозкай бульбы аж у Краснадарскі край.

- Так, я зрабіў некалькі рэйсаў з бульбай на Краснадаршчыну. Мая справа вадзіцельская, але ж галоўнае бачыў, чуў. Бульба ў тых мясцінах у цане. Так што, закупляючы яе ў Паставах па 60 тысяч, пакрыўшы ўсе дарожныя выдаткі, можна там атрымаць пэўны прыбытак. Да таго ж і назад мой грузавік не ішоў пусты – вязлі на Беларусь кавуны. Але тут ёсць два моманты. Па-першае, беларускую бульбу ў Краснадарскім краі цяжка прадаваць на кірмашы, у розніцу. У людзей існуе яшчэ пэўная асцярога да ўсяго, што звязана з Беларуссю. Чарнобыль працягвае сваю нядобрую справу. Па-другое, у Чарназем'і, праз якое пралягае траса на поўдзень, бульбы таксама вельмі шмат. І прадаецца яна амаль што ўдвая танней, чым беларуская. Так што, нашаму камерсанту значна выгадней па дарозе ў Краснадар закупляць бульбу менавіта там. Але гэта забаронена, можна, праводзячы такія аперацыі, нарвацца на вялікія непрыемнасці. Ды толькі, як кажуць, хто не рызыкуе… І яшчэ. Да-рожная міліцыя ў Расіі перайшла ўжо амаль што да адкрытага рэкету. Практычна немагчыма праехаць ніводнага паста на дарозе, каб не плаціць. Існуе цвёр-дая такса. Яна ўжо сёння сягае да 20 долараў.

Між тым на чыгуначнай станцыі Паставы няспешна, але ідзе загрузка вагонаў нашай бульбай. Так што гаспадарам, калі ёсць такая магчымасць, можна і пачакаць. Няўжо і зімою попыт на наш га-лоўны прадукт не ўзрасце?

*А.К.*

---

## РЭПЛІКА

# ТРЫ БОХАНЫ ХЛЕБА

Выбары блізяцца. Гэта адчуваецца не толькі па накалу барацьбы кандыдатаў. Якраз перадвыбарнай барацьбы ў правінцыі мы і не адчуваем. Але затое ў калгасах і саўгасах разлічваюцца з людзьмі, ліквідуюць запазычанасці па зарплаце, па аплпце здадзенага малака, значыць, і выбары не за гарамі.

Ды, атрымліваючы заробленае, не кожны з выбаршчыкаў разумее, што ён ужо прайграў. І за тыя месяц, два, тры, што ён чакаў заработную плату, ён ужо многае страціў. Бо цэны на самыя неабходныя тавары растуць практычна кожны дзень. Вось і ў Паставах, дзе хлеб быў адносна танны, кошт бохана ўжо сягнуў за дзвесце рублёў.

П'янаваты дзядзька стаіць у краме перад цэннікамі. Доўга глядзіць на бохан хлеба, потым на бутэльку віна. Нешта лічыць па пальцах. Потым узрадавана ўсміхаецца:

-Дык гэта жонка дала мне на тры боханы хлеба. Я ж за іх куплю бутэльку віна. Навошта мне хлеб…

Сапраўды, такога яшчэ не было. Кошт хлеба, самага надзённага прадукта , узнімаецца няўхільна. А вось віно адносна таннае. Піце на здароўе, беларускі.

*А.К.*

# ЯНЫ ГАЛАСАВАЦЬ НЕ БУДУЦЬ

Добры мой знаёмы, чалавек з вышэйшай гуманітарнай адукацыяй, мастак, які шмат гадоў назад пачынаў свой працоўны шлях у Паставах, сёння жыве і працуе ў Германіі. Займаецца ён там той жа справай, якой займаўся і дома. Але дома стаў непатрэбен. Неяк у час аднаго з кароткіх яго візітаў на радзіму паразмаўлялі. Чалавек задаволены. І найперш тым, што стаў адчуваць сябе чалавекам.Чалавекам, які сваімі рукамі, талентам, ведамі зарабляе на жыццё, на ўтрыманне сям'і. І гэта не тыя капейкі, не тыя два-тры дзесяткі долараў, якія ён мог атрымаць і атрымліваў за такую ж працу ў нашым гарадку, а важкія, сапраўды важкія па нашых мерках грошы.

Другі мой добры знаёмы, чалавек таксама з вышэйшай адукацыяй, педагог сёння большасць часу праводзіць у Падмаскоўі. Ён займеў ужо ў часы перабудовы новую прафесію – будаўніка аддзелачніка і цяпер выштукоўвае дачы новых рускіх.

І першы, і другі мае знаёмцы не прымуць удзелу ў галасаванні ў час выбараў у палату прадстаўнікоў. І нават не таму, што яны не пажадаюць зрабіць гэтага. Нават калі хто і захацеў аддаць свой голас за нейкага кандыдата альбо выкрэсліць усіх кандыдатаў, іх проста не прымуць ў беларускім консульстве ў Расіі, ні ў беларускім консульстве ў Германіі. Бо гэтыя пастаўчане знаходзяцца за мяжою, жывуць і працуюць там большую частку года нелегальна, на птушыных правах. Суровае жыццё пагнала іх з роднай староны, але існуючыя ў нашай дзяржаве законы не далі ім магчымасці выехаць на заробкі на законных падставах. Ды і ў тых дзяржавах, дзе яны сёння атабарыліся. Іх не надта чакалі. Цярпець церпяць – танная рабочая сіла. Але правоў ніякіх не даюць.

Канечне ж, не два гэтыя, а дзесяткі і нават сотні пастаўчан, якія сёння шукаюць заробак для сем'яў у Расіі, іншых краінах не прымуць удзелу ў галасаванні на прадстаячых выбарах. І не апазіцыя іх распрпапагандавала. А ўсё тыя ж суровыя абставіны жыцця.

Такая сёння оля ў пастаўчан, іншых беларусаў. Родная зямля не дае магчымасці знайсці дастойную працу, дастойны заробак. Даводзіцца, як некалі продкам пры Расійскай імперыі, панскай Польшчы выязджаць у пошуках лепшай долі. Нехта з прыхільнікаў камуністычнай ідэалогіі заўважыць: а вось пры камуністах не выязджалі. Так, не выязджалі, бо межы чырвонай імперыі былі на замку. Але жылося ад гэтага людзям не лягчэй.

Дзеля чаго гэта пішацца? А вось пазнаёміўся ў газеце "Пастаўскі край" з праграмамі двух кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад нашай акругі. І няма, няма ў гэтых праграмах нічога канкрэтна аб вырашэнні самай бадай што балючай для нашага раёна праблемы – праблемы беспрацоўя. Нейкія абстрактныя яны, з такімі праграмамі мож-



на было выступіць і ў Глыбокім, і ў Мазыры, і ў Іванаве. Увогуле, абодва канды-даты ў дэпутаты нібы з гатоўнасцю паслухаліся прэзідэнта Лукашэнку і цяпер выконваюць яго наказ. А менавіта прэзідэнт на нядаўнім з'ездзе дэпутатаў даў указанне : не патрэбны ў палаце прадстаўнікоў людзі, якія б адстойвалі інтарэсы нейкіх партый ці нават тэрыторый. Павінны быць людзі, якія б найперш займаліся вытворчасцю законаў. З аднаго боку нібыта і правільна: галоўнае для дэпутата вышэйшага органа – законы. Інтарэсы дзяржавы. Але з другога боку атрымліваецца так: вы там выбірайцеся ў сваіх акругах, абяцайце, агітуйце. Ну а потым на свае выбарчыя ўчасткі можаце забыцца. Вы будзеце працаваць толькі ў Мінску і толькі з уладай. Забяспечваючы гэту ўладу патрэбнымі ёй законамі.

Цікавая пастаноўка пытання. Канечне, дэпутат не павінен займацца ўстаноўкай прыбіральняў у сваёй акрузе. Ці рамонтам даху ў пенсіянера. Але ўвогуле не звяртаць увагі на праблемы свайго рэгіёна – гэта, браточкі мае, пры нашай мажарытарнай сістэме будзе нонсенсам. Я назваў толькі адну праблему, беспрацоўе. Але колькі такіх праблем на Пастаўшчыне, Браслаўшчыне! Той жа дзіячы аздараўленчы комплекс у Касцянях. Колькі ўжо гадоў, вобразна кажучы, топяцца ў тых балоцістых мясцінах сродкі. А канцу будаўніцтва не бачна. Колькі гадоў маглі б ужо там працаваць пастаўчане. Вырашыць гэта пытанне можна толькі ў Мінску, і менавіта з дэпутацкімі паўнамоцтвамі. Ды, зноў жа аказваецца, што такія дэпутаты не патрэбны, няма чаго дабівацца палёгкі для сваёй тэрыторыі і сваіх людзей. Ідэальны дэпутат, як яго сёння бачаць афіцыйныя ўлады – чысты законатворца. Прычым, і законы пісаць ён павінен па падказцы ўладаў, а не зважаючы на патрэбы сваіх выбаршчыкаў.

Але вернемся да тэкстаў, якія прадаставілі на старонкі раённай газеты кандыдаты. Аляксандр Камай. Тэкст ягоны можна ўмоўна падзяліць на дзве часткі. Першая – тэарэтычныя выкладкі аб мяркуемых напрамках заканадаўчай дзейнасці і Палаты прадстаўнікоў. Правільныя і выверанныя. Але, думаецца, мала хто з падпісчыкаў газеты адолее прачытаць гэтыя сухія радкі. Другая частка – традыцыйныя перадвыбарныя абяцанні аж да "замацавання механізму вяртання ўкладаў у грашовай форме, маёмасцю, акцыямі рэнтабельных прадпрыемстваў краіны". Пётр Розынка. Першая частка тэксту – біяграфія кандыдата з пералікам таго, што, бяспрэчна, зрабіў былы старшыня калгаса для сваёй гаспадаркі. Другая частка – тыя ж абяцанні аж да "прапагандаваць здаровы лад жыцця".

Магчыма, выкажу асабста сваю думку, але, нямала выбаршчыкаў нашай акругі, пазнаёміўшыся з такімі тэкстамі, не пажадае і ісці на галасаванне.

Што там, каб памяняць гэтыя праграмы месцамі – нічога асаблівага не адбылося б. Прынцып, падыходы адны і тыя ж. Прадчуваю, што з боку прадстаўнікоў кандыдатаў, тых, хто пісаў гэтыя праграмы могуць узнікнуць пярэчанні. Так, у праграме А. Камая ёсць радкі "аказанне канкрэтнай дапамогі выбаршчыкам, прадпрыемствам і арганізацыям, мясцовым органам улады ў рашэнні сацыяльных, эканамічных і іншых важных праблем раёнаў. Лічу неабходным асаблівую ўвагу ўдзяліць праблемам занятасці насельніцтва і выкарыстання геаграфічнага стану раёнаў з мэтай стварэння добраахвотных зон для інвертіравання". У П. Розынкі: "забяспечыць на справе прыярытэтнае развіццё сельскай гаспадаркі як неабходную ўмову паляпшэння жыцця народа; завяршыць распрацоўку і прыняць у парламенце праекты законаў, якія створаць прававую базу па ўздыму сельскагаспадарчай вытворчасці, рэфармавання калгасаў і саўгасаў".

Але прабачце мяне, калі гэта "канкрэтыка", калі такія абяцанні выбаршчыкі могуць прыняць і ім паверыць, а потым спытаць з дэпутатаў аб выкананні дадзенага слова, то мы вяртаемся ў яшчэ памятныя часы "адзінага блоку камуністаў і беспартыйных".

Як вы ўяўляеце? Прыязджае дэпутат са справаздачай у сваю акругу. І яго пытаюць: "Удзяляў увагу праблемам занятасці насельніцтва?" "Удзяляў". "Ствараў прававую базу для ўздыму сельскагаспадарчай вытворчасці?" "Ствараў". Ідылічны малюнак.

Не, за такія праграмы асабіста я галасаваць не буду.

***Алесь Касцень***

## ЛІСТ У РЭДАКЦІЮ

# У нас выборы

***(МНЕНИЕ ИЗБИРАТЕЛЯ)***

Несмотря на то, что у многих сложилось представление о Белоруссии как о вотчине президента Лукашенко с его единоличным правлением, тем не менее, демократические процессы наблюдаются и у нас. Особенно это проявляется в преддверие выборов в нижнюю палату Белорусского парламента, которая официально именуется Палатой представителей национального Собрания республики Беларусь.

Более того, несмотря на то, что многие считают парламент чисто декоративным внешним украшением государственного строя, выборы в него позволяют сделать некоторые интересные выводы.

Интересно проанализировать ситуацию в Поставском районе Витебской области, где многие процессы проявляются особенно явно хотя бы ввиду того, что в этом районе выбор будет осуществляться между двумя кандидатами - Петром Розынко и Александром Камаем.

Розынко - депутат действующей Палаты представителей, решивший баллотироваться на второй срок. Это человек предпенсионного возраста, ярко прокоммунистических взглядов, с проблемами со здоровьем.

Камай - представитель более молодого поколения со здоровыми амбициозными претензиями, политикой ранее не занимавшийся, представитель новой волны, вызванной необходимостью очевидных перемен в жизни Белоруссии, в том числе и перемен в парламентской жизни.

Это проявляется с особенной очевидностью хотя бы в силу того, что Розынко на встречах с избирателями постоянно подчёркивает ту малую роль, которую играет парламент в жизни Белоруссии. Постоянно намекая, что Лукашенко сильно ограничил права парламента. Этот тезис он использует при ответах на вопросы , касающиеся результатов его деятельности в качестве действующего депутата.

Очень даже может быть, что это и так. Тогда появление таких фигур, как Александр Камай - вполне закономерный ответ на требование времени превратить парламент в действительно действующий законодательный орган, представляющий интересы народы и экономики.

При этом, очевидно, что дело даже не в подавлении Лукашенко прав парламента, и в готовности депутатов принять это подавление. Причём данная позиция практически безупречна , так как в случае чего можно всю вину свалить на одного человека , который «ничего не дал сделать».

А делать что-то надо. Экономика испытывает очевидные трудности, жизненный уровень и уровень деловой активности падают. Поэтому необходимость притока свежих сил в парламент вырисовывается достаточно чётко.

Непонятен призыв оппозиции бойкотировать выборы. Где, как не на выборах, можно привлечь на свою сторону самые разные слои населения. Хотя, как мне кажется, наибольшие симпатии у избирателей вызывают кандидаты нейтрального толка, не относящиеся ни к президентской номенклатуре, ни к бездействующей оппозиции.

Касаясь конкретно Поставского района, можно сказать, что, несмотря на то, что местные власти, от которых зависит очень многое, не поддерживают кандидатуру Камая, отдавая некоторое предпочтение Розынко, тем не менее, особенно Камая и не зажимают. Может быть, это отражение некоторой выжидательности в позиции, которая перед самыми выборами может кардинально измениться.

В нашем районе, как в капле воды, могут отразиться основные тенденции развития политической жизни Белоруссии. Либо некоторое обновление, либо прежняя стагнация и полная готовность и дальше подчиняться диктату Лукашенко, оправдываясь перед избирателями малостью прав органа власти, из которой, увы, уходить они, не желают.

***Константин Александрович,***
***житель г. Поставы.***

*(друкуецца на мове аўтара)*

# АСТАТНІЯ ЛЮДЗІ

Некалі ўстойлівым да абрыдласці быў выраз: "Рабочы клас, калгаснае сялянства, савецкая інтэлігенцыя". Так камуністычныя правадыры ў сваіх прамовах зачытвалі напісанае для іх вызначэнне савецкага народа. Недзе там, на ўвазе, мелася, канечне, разуменне, што ёсць яшчэ і дзеці, пенсіянеры. Але гэта так – ужо потым. Вось Савецкая Армія – ёй была і пашана і грошы.

Часы памяняліся. Але на Беларусі захавалася "калгаснае сялянства". З'явілася, праўда, тоненькая праслойка "новых беларусаў", якія ў асноўным выраслі з былога партыйнага і камсамольскага апарату. Сцяўшы зубы, але афіцыйныя ўлады мусяць прызнаваць і існаванне беспрацоўных, якія афіцыйна стаяць на ўліку і атрымліваюць ад дзяржавы капейкі на хлеб. Гэта вельмі актуальна якраз для нашага раёна, дзе збег абставін і пралікі ў вырашэнні сацыяльны'х пытанняў абвастрылі сітуацыю якраз з занятасцю насельніцтва.

Але ёсць катэгорыя людзей, якая не прызнаецца афіцыйнымі ўладамі, людзей, якія проста выпадаюць з сённяшняга цяжкога нястачнага ва ўсім жыцця. Іх бы я так і называў – астатнія людзі. Іх ужо вельмі нямала ў нашай правінцыі, і колькасць іх незваротна более. Чалавек увогуле ўлады не цікавіць. Ён кінуты сам на сам з абставінамі, якія стварае для яго дзейнасць "вертыкалі". І толькі калі самастойны і вольны ад улады чалавек уяўляе нейкую цікавасць з пункту гледжання падаткаабкладання, на яго яшчэ будзе звернута ўвага. Калі ж бачна, што акрамя вошай у прамым і пераносным сэнсе гэты чалавек даць нічога не можа, ён становіцца нібы празрыстым, не заўважаемым нікім. Зазначым, што нават у медвыцвярэзнік такія, астатнія, людзі не трапляюць, калі нават злосна парушаюць грамадскі па-радак на нашых вуліцах. А што з іх узяць у мед-выц-вярэзніку, які таксама павінен зарабляць на сваё існаванне?

Пазнаёміўся я з ім выпадкова. Некалькі разоў распытваў аб жыцці. І мой субяседнік, начыста пазбаўлены ўласцівай большасці з нас сарамлівасці ў расказе аб самых непрыемных момантах апавядаў:

"А што, я цяпер – жыхар сметніка. Як вярнуўся з зоны – той кватэры-кануры, якая была ў мяне раней, няма. Куды падацца? Чым жыць? Начую па хлявах, па запушчаных будынках. Цяпер такіх хапае.Ну а большасць часу праводжу на сметніках. Там усё можна знайсці. Нешта з адзення ці абутку. Макулатуру, металалом, якія здаю. Падхаджваю, бывае, да мясакамбіната, да іншых заводаў, дзе ёсць, што з'есці. Перападае і мне. Але галоўнае – збор алюмінію, іншых металаў, макула-туры. Тут бывае, што і на віно хапае.

-Ну а зімой?

-Зімой халаднавата. Але ёсць у Паставах хаты, кватэры, дзе можна і пераначаваць, збіраюцца там такія ж бамжы, як і я.

-А чаму б не пайсці працаваць хаця б сезонна?

-Без прапіскі, дакументаў на пастаянна мяне не возьмуць. Ды і не хачу я ісці працаваць за капейкі. Гэту капейку пры ўдачы я на сметніку лёгка зараблю. І свабодны. Ну а ўлетку збіраю грыбы, ягады. Здаю.

Нельга сказаць, што гэтым чалавекам улады зусім ужо не цікавяцца. Пасля таго, як у райцэнтры адбываецца які-небудзь крадзёж, яго бярэ ў абарот міліцыя. Ці не ты? Потым адпускаюць, праверыўшы. Ну а ці крадзе ён сам? Вось гэта пытанне для бамжа з разраду інтымных, як для нас прыкладам – ці змяняеце вы жонцы? Тут ён адказвае, зразумела, адмоўна.

Традыцыйна лічыцца, што месцам збору "бамжоў" у Паставах з'яўляецца цэнтральны сквер, які носіць імя правадыра кастрычніцкага перавароту і помнік якому і сёння заклікае нас у светлае будучае. У нечым гэта справядліва. Яшчэ ў часы панавання камуністычнай ідэалогіі, калі афіцыйна беспрацоўных у нас не было, а з дармаедамі (тыя, хто не працуе афіцыйна) ваявалі, менавіта тут збіраліся яны ў чаканні, пакуль адчыніцца першая крама, дзе можна набыць таннага напою. Адсюль бывала, міліцыя, акружыўшы іх узмоцненымі нарадамі, вывозіла на прымусовыя работы ў калгасы. Але сёння астатнім людзям ужо няма чаго чакаць, калі адчыніцца крама. Працуюць яны і да позняй начы і да самага ранку. Ды і пасярод начы знайсці выпіць – не праблема. У астатніх людзей, як, уласна кажучы, і ва ўсіх нас сёння зусім іншы клопат – здабыць на хлеб надзённы. Вось у пошуках хоць нейкай здабычы і шнырaюць яны па райцэнтры, забіраюцца ў бліжэйшыя вёскі. Яны не адмовяцца ад разавай, непрацяглай па часе, няхай і самай бруднай работы, яны не пастыдаюцца падабраць тое, што выкінулі людзі на сметнік. Яны і да мясакамбіната падыходзяць не ў надзеі атрымаць нечаканы кавалак мяса. Надзея на адыходы.

Больш дваццаці гадоў назад у сібірскім Ханты-Мансійску, зусім недалёка ад аэрапорта ўбачылі мы касцярок, а вакол яго некалькіх замызганых, аброслых асоб. "Што гэта?" – пытаемся ў гаспадароў. А тыя з поўным раўнадушшам адказваюць : "А гэта "бічы" сабаку смажаць." Здзівіла менавіта раўнадушша, звыкласць да такой з'явы.

Што ж, звыклымі да такіх з'яў становімся і мы.

Астатніх людзей можна папракаць, што яны самі вінаватыя ў тым, як склаўся іх лёс. Яно так. Яны ў нечым хворыя людзі. Але ж калі ў грамадстве так шмат хворых людзей, то, значыць, хворае і само грамадства. Можна запярэчыць, што хапае астатніх людзей і ў краінах захаду. Так, ды там ўсё-такі для іх існуюць начлежныя дамы, бясплатныя сталовыя. Помніцца, была мода завадзіць такое і ў нашай суседцы Расіі. Бізнесмены, ашалеўшы ад дармовых грошай, выкідвалі падачкі астатнім людзям. Толькі мода хутка праходзіць, а вось такія абяздоленыя людзі застаюцца.

***АЛЕСЬ КАСЦЕНЬ (т. 2-31-35)***

# ГУМАР

## ПРЫСМАКТАЎСЯ Б...

Аднойчы ночы сам сабе задаў пытанне, і нават у ложку сеў. А сапраўды? Чаму не рабуюць сучасныя банкі? У нас столькі бедных, у нас столькі зброі. А банкі не рабуюць. У банкіраў страляюць, іх нават выкрадаюць, а часам і пад арышт бяруць. А самі банкі не рабуюць.

Скажыце, што банкір будзе ахоўваць лепш: банк альбо сябе? Ну, канечне ж сябе, можа і не такі стройны ўжо, можа і тлушчу шмат. Але ж сваё, дарагое з дзяцінства.

Але не могуць сябе банкіры ахаваць ад небяспекі і прысутнасці іншых суграмадзян. Нене, ды нешта з ім здараецца. А вось банк цэлы.

І закрадаецца думка. А, можа быць, няма чаго? Проста няма чаго там браць. Можа быць туды нічога і нетрапляе з накапленнеяў грамадзян і з авуараў дзяржавы? Можа, калі і трапляе, то так ненадоўга, што не паспяваюць зламыснікі. Не хапае бандытам апаратыўнасці. Бос каманду даў " на справу". А браць ужо і няма чаго. Зніклі грошыкі. Ну, а ахова, сігналізацыя – гэта для нас, каб мы больш туды неслі.

А там труба такая спецыяльная, як пнеўмапочта. Толькі паклаў – а яны ўжо далёка, далёка. Там, куды мы не ездзім.

Вось бы знайсці такую трубу. Не тэрарыст, але прысмактаўся б.

## АДЧЫНІЦЬ ХАЛАДЗІЛЬНІК

Прачнууся ўначы, адчыніў халадзільнік. Божачка, я не дома. Повен халадзільнік гастраноміі. Тут табе і каўбаска, і выразка, і нават паляндвічка вэнджаная. Гэта я ў швагры заначаваў. Ён на мясакамбінаце працуе.

Прачнууся ўначы. Смажыць. Адчыніў халадзільнік. Зноў я не дома, а ў гасцях. Повен халадзільнік малочных прадуктаў. І сыры, і масла, і смятана. І ёгурты з кефі-рамі. У стрыечнага брата, значыць. Ён там загадчык вытворчасці. А, можа, тэхнолаг. Не памятаю.

Прачнууся ўначы. Адчыніў халадзільнік – не дома. І чаго гэта мяне так часта ў госці цягне? Ага, тарты некранутыя, пірожныя, яшчэ нейкае печывамечыва. І каньякі. Чаму гэта ў кандытарскай вытворчасці так шмат каньяку прымяняюць? Трэба будзе ў пляменніцы спытацца.

Прачнууся. Спецыяльна да халадзільніка хутчэй. Дзе я?

Дома...

І не павуцінне ў ім – не падумайце. Мой халадзільнік таксама падключаны і таксама паўнюткі. Я ў ім снег захоўваю. Ведаеце, такое ў мяне хобі. Люблю на леташні снег глядзець. Дастаю з халадзільніка слоік. Стаўлю перад сабою. І ўспамінаю. Гадзінамі магу глядзець.

Дзе я працую? Дык а сваякі нашто?

## У КРЭДЫТ

Хаця зранку дакучала звычайная хвароба, адчуў Мікола, што дзень сёння будзе незвычайны. І найперш таму, што ў душы сваёй намацаў сілы адчайныя, магчыма нават, здольнасць да подзвігу.

Ногі, праўда, неслі яго па стаптанай сцяжынцы, да цёткі Зосі, якая не ад ранку да вечара, а суткамі напрасцяг лячыла падобных яму бедакоў.

Зося, як толькі з'явіўся Мікола на парозе, узвысіла голас:

-І не прасі. Не дам! Досыць ужо – колькі завінаваціўся. А аддаваць калі?

-Зося, бутэльку...

-Ах ты, валацуга, ну колькі можна назаляць.

І тут ранішні адчай узняўся ў душы Міколы:

-А ты? За чый кошт ты жывеш? За чый кошт вось гэты новы тэлевізар? За чый кошт у зяця ў дварышчы машина бліскучая? За наш кошт! Гэта наша смага цябе корміць! Давай бутэльку самагонкі – а не тое байкот аб'явім!..

Паправіўшы галаву, Мікола адвёз з ямы да фермы некалькі вазоў змерзлага і занадта пахнючага сенажу і ўбачыў, што вясковая крама ўжо гасцінна адчыніла дзверы.

Крамніца, калі Мікола быў яшчэ ў дзвярах, звярнулася да пакупнікоў:

-Ну вось: прэцца зноў. Набраў на павер столькі, што ўжо і зарплаты не хопіць разлічыцца. І зноў прэцца. Дзе яго сумленне ў вочы глядзець? А калі аддасі?

Але ў Міколы дзень быў незвычайны.

-У вочы глядзець? А вось і гляджу! Тут вунь краіна даўгоў набірае і смела глядзіць у вочы ўсяму свету. І яшчэ просіць. І даюць жа! Не пытаюцца : калі аддасі? Так што бутэльку – інакш нічога не аддам!

Пасля палудня пацягнула яго да людзей. Між тым пагалоска пра Міколу пайшла па вёсцы. Знайшліся паслядоўнікі. Таму ў майстэрні адчуў Мікола да сябе павагу і нават замілаванне. І арганізаваў мітынг. Пад ло-зунгам : " Давер і крэдыт – запойным!" Пасля мітынгу дружным і не-малым гуртом рушылі па ўсіх "кропках", з якіх наталяў смагу вясковы люд. Ну а тады ўжо подзвігу Міколы малавата стала вясковага маштабу. Падаўся на раён. Начаваў Мікола ў медвыцвярэзніку. Кажуць, што і там даводзіў свае правы. І сапраўды, абслужылі яго ў крэдыт.

***Алесь Касцень***

Заснавальнік і рэдактар **Міхал Гіль**

Адрас рэдакцыі: 211840, г. Паставы, вул. Бальнічная, д.11. Тэл. (02155) 2-17-84. E-mail: gil@postavy.belpak.vitebsk.by

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць інфармацыі

Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на абсталяванні ГА «Усяслаў Чарадзей» г. Наваполацк.